*С.ШАРЕЦКИЙ: «Правовой беспредел, который творится в эти дни в Беларуси, можно сравнить только с порядком в фашистской Германии» (Артыкул старшыні ВС на стар. 3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

15 лістапада 1996 г. № 87 Кошт свабодны

## Лукашэнка хоча пакінуць у Беларусі ядзерную зброю



**Узмоцненая ахова будынка расійскай Дзярждумы падчас знаходжання там Аляксандра Лукашэнкі не застрахавала яго ад фактычнага правалу візіту. Назіральнікі схільныя ацэньваць вынікі паездкі Лукашэнкі ў Маскву як нулявыя.**

Напярэдадні візіту лідэр расійскіх дэмакратаў Грыгорый Яўлінскі ад імя фракцыі «Яблоко» зрабіў заяву, у якой абвінавaціў Лукашэнку ва ўсталяванні ў Беларусі дыктатуры. Ніводзін прадстаўнік «Яблока» на выступленне Аляксандра Лукашэнкі не з'явіўся. Затое прыехалі 15 беларускіх парламентарыяў.

Факт адкрытага ігнаравання Лукашэнкі расійскімі дэмакратамі нікольки не збянтэжыў беларускага прэзідэнта, і перад дэпутатамі расійскай Думы ён з'явіўся ў амплуа выкрывальніка зласліўцаў, якія імкнуцца перашкодзіць працэсу інтэграцыі. Па словах беларускага правадыра, шэраг расійскіх палітыкаў пры вызначэнні працэсу беларуска-расійскай інтэграцыі кіруюцца думкай пра тое, што Беларусь з'яўляецца нахлебніцай у Расіі. *«Гэта не так»*, — заявіў Лукашэнка і нагадаў расіянам, што Беларусь забяспечвае інтарэсы РФ на Захадзе. Другая «няправільная думка», па словах Лукашэнкі, гэта тое, што Беларусь быццам бы адстае ад Расіі па тэмпах эканамічнай рэформы.

Пералічыўшы «няправільныя стэрэатыпы» ўспрыняцця беларуска-расійскай інтэграцыі, Аляксандр Лукашэнка перайшоў да ўнутрыпалітычных беларускіх праблемаў. У чарговы раз ён заявіў пра апазіцыйныя прэзідэнту сілы, якія не перапыняюць спробы скінуць «усенароднаабранага» прэзідэнта. Свой праект канстытуцыі, які выносіцца на рэферэндум, Аляксандр Лукашэнка назваў адзіным сродкам, здольным уратаваць Беларусь ад полымя грамадзянскай вайны.

Запэўніўшы расійскіх дэпутатаў у тым, што прэзідэнт Беларусі дзейнічае толькі ў адпаведнасці з законам, Лукашэнка перайшоў да улюбёнай тэмы — пашырэння *NATO* на ўсход. Беларускім чытачам добра вядомыя сентэнцыі беларускага лідэра з гэтай нагоды. Але ж адметнасцю думскага выступлення Лукашэнкі стала заява аб тым, што Беларусь не будзе імкнуцца вывесці ядзерную зброю са сваёй тэрыторыі. *«Я пытаюся ў тых, хто імкнецца пераканаць мяне ў неабходнасці вываду ядзернай зброі, ці не задужа мы спяшаемся ў сітуацыі, калі патэнцыйныя члены блока NATO гатовыя размясціць ядзерную зброю на сваёй тэрыторыі».* Ці будзе мець гэтая заява Лукашэнкі нейкія наступствы — можна толькі здагадвацца. У развіццё геапалітычных праектаў па падвышэнні статуса Беларусі Аляксандр Лукашэнка высунуў ідэю пераўтварэння Беларусі ў мост паміж Расіяй і Калінінградскай вобласцю. Праўда, наконт пракладкі транскантынентальнай магістралі на гэты раз гаворка не ішла.

*(Працяг на стар.2)*

## Датэрміновае галасаванне – толькі з даведкай

14 лістапада Вярхоўны Савет даў афіцыйнае тлумачэнне па прымяненні некаторых спрэчных момантаў закона аб рэферэндуме. Парламент вызначыў, што прымаць удзел у датэрміновым галасаванні маюць права толькі тыя грамадзяне, якія дакументавана пацвердзяць прычыны сваёй адсутнасці на выбарчых участках у дзень рэферэндуму (камандзіроўка, ад'езд і г.д.). Астатнія жадаючыя прагаласаваць могуць зрабіць гэта толькі 24 лістапада.

Прынятыя парламентам нормы ўступаюць у дзеянне з 14 лістапада — з гэтага дня імі абавязаны кіравацца ўсе выбарчыя камісіі.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Адстаўка ў знак нязгоды

Намеснік міністра замежных справаў Андрэй Саннікаў падаў у адстаўку, матывуючы яе нязгодай з палітыкай прэзідэнта Лукашэнкі. У практыцы нашага знешнепалітычнага ведамства такое здарылася ўпершыню.

**А.Д.**

## Прыкрыць СВАБОДУ не ўдаецца

**Забараніць газету СВАБОДА праз суд пакуль не ўдаецца. 12 лістапада ў Вышэйшым гаспадарчым судзе адбылося першае паседжанне па справе аб закрыцці нашай газеты. Аднак высвятлілася, што не хапае юрыдычных падставаў для спынення выпуску СВАБОДЫ. Дзяржкамдрук лічыць, што такія падставы ёсць. Чарговая сустрэча ў судзе адбудзецца сёння, 15 лістапада.**

## Рэдкі выпадак: міліцыянтаў асудзілі за здзекі

**На гэтым тыдні ў судзе Маскоўскага раёна г.Мінска завяршыўся працэс над двума супрацоўнікамі міліцыі.**

Оперупаўнаважаныя крымінальнага вышуку Мікалай Палубінскі і Сяргей Панамарэнка абвінавачваліся ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў і прымяненні грубай фізічнай сілы.

1 лістапада 1995 г. М.Палубінскі выклікаў на размову ў Кастрычніцкі райаддзел міліцыі Міхаіла Коцура, якога падазраваў у крадзяжы каштоўных рэчаў з кватэры жонкі. М.Коцур адмовіўся размаўляць з оперупаўнаважаным, заявіўшы, што не ўчыняў ніякіх злачынстваў. Тады М.Палубінскі разам з С.Панамарэнкам пачалі жорстка збіваць М.Коцура. Яны надзявалі Міхаілу наручнікі і падвешвалі за рукі на лом, нацягвалі працівагаз і перакрывалі доступ паветра. Пасля катаванняў міліцыянеры яшчэ доўгі час незаконна ўтрымлівалі М.Коцура ў камеры і дамагаліся ад яго прызнання віны.

Судова-медыцынская экспертыза пацвердзіла шматлікія цялесныя пашкоджанні ў пацярпелага. Следчыя пракуратуры знайшлі ў кабінеце М.Палубінскага лом, акрываўлены працівагаз і вяроўку. Дзякуючы прынцыповасці работнікаў пракуратуры справа была даведзеная да канца.

Суд доўга разбіраўся ў матэрыялах, прадстаўленых следствам, заслухаў шматлікіх сведак і прызнаў М.Палубінскага і С.Панамарэнку вінаватымі ў здзейсненым злачынстве. Абодва супрацоўнікі міліцыі асуджаныя на 3,5 года пазбаўлення волі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Семен ШАРЕЦКИЙ, председатель Верховного Совета Республики Беларусь

# Почему опасно голосовать за проект конституции, предложенный президентом?

Уважаемые соотечественники! Если на этот вопрос ответить кратко, то потому, что в случае реализации посредством референдума данного проекта конституции на практике в **нашей стране будет создан тоталитарный режим** со всеми его признаками. А такими признаками являются: лжесоциалистическая демагогия, применяемая с целью создания массовой базы поддержки властей за счет недовольных, культ вождя, тотальная власть государства над всеми сферами общественной жизни, всеобщий контроль над личностью, монополизированные властными структурами средства массовой информации для «обработки народа», использование насильственных методов для подавления инакомыслящих, беспрерывный поиск «преступников» и даже «врагов» с целью постоянного нагнетания в обществе страха.

В истории, к сожалению, подобного рода режимы уже были. Примерами их являются: фашистский режим в Италии, гитлеровский режим в Германии, франкистский режим в Испании, режим «черных полковников» в Греции и др. К тоталитарным режимам относится и сталинский режим, который пережила наша страна. Последствием его явилось то, что только в Могилевской области, откуда родом А.Лукашенко, в течение 20—30-х годов было репрессировано более 200 тысяч человек.

Замечу, что из всех перечисленных тоталитарных режимов А.Лукашенко хочет взять за образец гитлеровский режим. В доказательство сказанного я еще раз хочу привести слова Лукашенко из его интервью немецкой газете «Хандельсблат»:



*«...немецкий порядок формировался веками. При Гитлере это формирование достигло наивысшей точки. Это то, что соответствует нашему пониманию президентской республики и роли в ней президента».*

Думаю, что приведенные слова А.Лукашенко в каких-то комментариях не нуждаются. Они просто и доходчиво разъясняют тот мотив, который двигал и двигает Лукашенко и его окружением при реформировании государственного устройства. А предлагаемый ими проект новой редакции конституции — это и есть правовая основа по-существу уже созданного в нашей стране тоталитарного режима.

Если Лукашенко и его окружению удастся путем обмана людей и фальсфикации итогов голосования протащить проект новой конституции, то вы ему вручите практически никем неограниченную и неконтролируемую власть, ибо в названном проекте конституции нет мер воздействия на президента, даже если он нарушит Конституцию. Президент становится и над властными структурами, и над народом, и даже над самой Конституцией как Основным Законом. Собственно говоря, свое пренебрежение к Конституции он уже продемонстрировал своим указом от 7 ноября 1996 года, не дожидаясь итогов референдума.

О каких цивилизованных подходах к решению вопросов может идти речь в государстве, где позволено, начиная от отдельных журналистов, государственных чиновников и кончая президентом, не только обсуждать и критиковать, но и не выполнять и даже опровергать заключения Конституционного суда, которые по закону носят обязательный характер, являются окончательными, обжалованию и опровержению не подлежат?

Конечно, в государствах, где господствует закон, ни кому не может прийти в голову даже в дурном сне, что можно опровергать, а тем более опровергать решения Конституционного суда. В этих странах за такие действия грозит уголовная ответственность. А в нашей стране все это, к сожалению, позволено. В нашей стране можно начать голосование еще до того, как были опубликованы в печати окончательные проекты новых конституций, выносимых на референдум.

Все это говорит о том, что **правовой беспредел, который творится в эти дни в Беларуси, можно сравнить только с порядком в фашистской Германии.** *«Они считают меня неотесанным и называют варваром. Да, мы действительно варвары. Мы хотим быть варварами. Мы считаем это почетным званием»,* — так Гитлер характеризовал методы, с помощью которых захватил власть. Гитлер также закатывал истерики и со слезами на глазах выпрашивал власть у своего народа, используя шабаши своих приспешников и референдумы, обман и угрозы.

Тотальность президентской власти в нашей стране усиливаются и тем, что им подбираются и назначаются (а не избираются народом, как того требует демократическое правление государством) руководители административно-территориальных единиц (областей и районов). И этот порядок он пытается закрепить в «своей» конституции.

Как известно, во всех цивилизованных странах «сердцем демократии» является парламент. В связи с этим все политические деятели, стремящиеся стать диктаторами, делали всё для ликвидации парламентов или, по крайней мере, ограничения его деятельности. Парламенты являются для такого рода деятелей препятствием для достижения ими своих целей. Именно по этой причине А.Лукашенко избрал в качестве главной мишени в борьбе за узурпацию власти Верховный Совет, вначале 12-го, а затем и 13-го созыва. В его проекте новой конституции предлагается: во-первых, сделать Верховный Совет двухпалатным, причем по существу с зависимой от президента верхней палатой, и, во-вторых, ограничить функции Верховного Совета и в формировании правительства, и в определении основных направлений внутренней и внешней политики государства, и в осуществлении контроля за деятельностью исполнительных органов.

Что же касается таких признаков тоталитарного режима, как всеобщий контроль над личностью, монополизирование президентскими структурами средства массовой информации, использование насильственных методов подавления инакомыслящих, нагнетания в обществе страха, то они уже в стране наяву: ведутся прослушивания телефонных разговоров, скрытая слежка за встречами людей с друзьями и коллегами по работе, для оппонентов Лукашенко стали недоступными государственные телевидение, радио и печать, до неимоверно огромной численности раздута милиция, вопреки законам наделяются функциями оперативно-розыскной деятельности другие органы, в обществе усиливается подозрительность, оно цепенеет от страха. И примером тому, как это и бывает в таких случаях, является поведение самого высокого должностного лица в государстве. Президент спит, работает, передвигается только под пристальным взглядом многочисленной охраны, вооруженной автоматическим оружием. Присутствовать в зрительном зале и смотреть концерт он может только в том случае, когда всех присутствующих пропустят через специальное устройство и проверят на предмет наличия у них оружия. Даже в зале заседаний Верховного Совета он дает интервью журналистам, только будучи окруженным смотрящими во все стороны охранниками. Подозрительность и страх, подобно ржавчине, «разъедают» и уродуют психику пораженного ими человека.

Понятно, что в таком обществе с тоталитарным управлением ни о какой созидательной деятельности не может быть и речи. Все чиновничество занято угодничеством и восхвалением «вождя». На это выбрасываются миллиарды рублей. В то же время самые способные и предприимчивые люди вынуждены выезжать из страны или, в крайнем случае, приостанавливать свою деятельность. Постоянными проверками скована деятельность руководителей и специалистов народного хозяйства. Нет никакой заинтересованности в повышении эффективности производства у рабочих, жизненный уровень которых падает из месяца в месяц.

Из-за беспредела в нарушении законов президентом и его окружением, ограничения прав и свобод граждан наша республика уже сегодня оказалась в изоляции от мирового сообщества и стала объектом критики средств массовой информации многих стран. Государство теряет многие миллиарды рублей из-за дискриминации его на европейском рынке и свертывания иностранных инвестиций.

Уважаемые соотечественники! Все это мы видим уже сегодня, когда еще не принят предлагаемый президентом проект новой конституции! А что же будет после референдума, на котором, не дай Бог, вы вручите ему неограниченную власть? Пока не поздно, я еще раз обращаюсь к вам:

**Будьте бдительны! Не дайте себя запугать и обмануть! Голосуйте только за то, что принесет благо вам, вашим детям и внукам!**



ЛІСТЫ Ў РЭДАКЦЫЮ

## Камунізм не за гарамі?

Увесь апошні час мяне не пакідае адчуванне таго, што ў нас паскоранымі тэмпамі адбываецца стварэнне чагосьці накшталт камунізму — у адной асобна ўзятай краіне.

Першая спроба скончылася, як вядома, няўдала. Паколькі, паводле Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, пабудова камуністычнага ладу жыцця намячалася на 80-я гады, дык самай прыкметнай падзеяй таго часу для беларусаў і для ўсяго СССР стаў выбух на Чарнобыльскай АЭС імя Уладзіміра Ільіча Леніна. Аднак падобна на тое, што хрушчоўскія лаўры сёння не даюць спакою нашаму Аляксандру Рыгоравічу. Кожнаму стараецца даць па патрэбах, як і павінна быць пры камуністычным грамадстве. Пенсіянерам — бясплатны праезд у прыгарадных цягніках, якія быў абяцаны да канца верасня, а потым падоўжаны. Працаўнікам бюджэтнай сферы — па 500 тысяч рублёў на рукі. (Не інакш з асабістай, відавочна бяздоннай, прэзідэнцкай кішэні.) Для хворых раптам зніжаны цэны на лекі. Для ўсіх без выключэння — спынены цэны на прадукты, асабліва «на яйцо». Ну як жа не любіць такога прэзідэнта?!

Аднак гэта яшчэ далёка не ўсё. Настаўнікам прэзідэнт загадаў даць грошы на газеты і кнігі, каб «не аслеплі» без чытання. Паўсюдна, на апошнім нават хутары, расшукалі адзінокіх пенсіянераў, каб выдаць ім спецыяльную «прэзідэнцкую» грашовую дапамогу перад рэферэндумам. Студэнтам, каб прагаласавалі «як трэба», паабяцана павышэнне стыпендыі — праўда, пасля Новага году. (Маўляў, калі прагаласуеце супраць мяне, нічога не атрымаеце.) Усім маладым без выключэння паабяцаныя танныя кватэры. Да такога, здаецца, нават Гарбачоў не дадумаўся! Але выканкамы спраўна ўсю бескватэрную моладзь перапісалі, як было загадана, у асобную «льготную» чаргу. У адным горадзе Гродна, Аляксандр Рыгоравіч, вам давядзецца пабудаваць 5 тысяч маладзёжных кватэр — як і абяцалі, з выдачай крэдыту на 40—50 гадоў.

Наслухаешся ўсяго гэтага ў праграмах БТ, заплюшчыш вочы — і бачыш казачныя кісельныя рэкі і ўвогуле поўны камунізм, пра які так марыў Мікіта Сяргеевіч.

Ва ўсёй гэтай кампаніі вельмі неаднaзна выглядае роля нашага калектыўнага апазіцыянера — Вярхоўнага Савета. З аднаго боку, не даўшы прэзідэнту правесці рэферэндум чым хутчэй — 7 лістапада, дэпутаты змусілі яго да раздачы новых абяцанак. З другога боку, чым больш Аляксандр Рыгоравіч іх раздае, тым больш шчодрым выглядае ў вачах народа. Карацей, прэзідэнт, як заўсёды, апроч мінусаў здолеў з дзеянняў ВС атрымаць для сябе і плюсы.

Увогуле, я б на месцы прэзідэнта падштурхнуў бы дэпутатаў да таго, каб яны дату правядзення рэферэндуму перанеслі да Новага года. Па-першае, настрой у выбаршчыкаў у гэтае свята заўжды лагодны. Па-другое, за такі час можна было б столькі наабяцаць народу, што ён рукамі і нагамі галасаваў бы толькі за прэзідэнта.

**Віталь ВОЙЦІК**, *г.Гродна*

## Скажыце, хто ж яны

Чаму ад нас хаваюць імёны тых, хто распрацоўваў праект прэзідэнцкай канстытуцыі? Народ павінен ведаць сваіх «герояў». Можа быць, іхнімі імёнамі назавуць новыя турмы і ГУЛАГі для дэмакратаў і камуністаў. А можа, гэта спатрэбіцца як матэрыял для новага Нюрнбергскага працэса... Хацелася б ведаць — хто яны, адкуль, колькі срэбранікаў ім плоцяць.

**К.ПЛІГАЎКА,**
*ветэран вайны, заслужаны работнік культуры БССР, г.Докшыцы*

## Хачу дапамагчы

Добры дзень, СВАБОДА!

Я выпісваю толькі вашу газету. Вельмі добра, што яна будзе выходзіць часцей. Чытаю, акрамя спорту, усё ад коркі да коркі.

Каб болей людзей ведала праўду, хачу дапамагчы гэтаму і я. Дашліце мне адрас таго, хто сам не мае магчымасці падпісацца, а хоча чытаць СВАБОДУ. Аднаму-двум я падпіску зраблю і дашлю ім квіткі.

**ШЧЫПЦОЎ Антон Іванавіч,**
*Барысаўскі р-н, п.Ганцавічы*

***Ад рэдакцыі. Шаноўны Антон Іванавіч! Будзе лепш, калі Вы зробіце такую паслугу камусьці са сваіх сваякоў, сяброў ці знаёмых. Мы ўпэўненыя, што сярод іх Вы знойдзеце новых сяброў СВАБОДЫ. Ёсць іншы варыянт: можаце выпісаць СВАБОДУ на адрас мясцовай бібліятэкі ці школы. Так робяць многія прыхільнікі нашай газеты.***

***Дзякуем Вам за салідарнасць.***

## Преступная «поддержка»

Уважаемая редакция!

15 ноября ожидается приезд Лукашенко на Могилевское ордена Ленина и имени Ленина производственное объединение «Химволокно» (на нем работает около 20 тыс. человек, предприятие дает четверть поступлений в городской бюджет). И вот в преддверии этого события к нам приезжает руководитель районной вертикали Шлопак, собирает руководителей всех структурных подразделений, в том числе заведующих ведомственными детскими садами. После этого совещания те собирают своих подчиненных и разъясняют: для того, чтобы получить льготы (?!) от вертикали, необходимо продемонстрировать президенту свою лояльность и до его визита всем досрочно — и «правильно»! — проголосовать. Затем результаты нужно доложить назначенному ответственному, который передаст сведения «наверх».

Вот таким преступным образом обеспечивается «всенародная поддержка».

С уважением

**В.МАШАГИРОВ**, *г.Могилев*

СВАБОДА
15 лістапада 1996 г., № 87

*Владимир* БОРОДАЧ:

# «Не заставляйте меня формировать бригады спецназа при Верховном Совете»

Обстоятельства отставки министра обороны Леонида Мальцева шокировали не только широкую публику, но и военную общественность. Об этом (и не только об этом) корреспондент СВАБОДЫ беседует с бывшим полковником спецназа Владимиром БОРОДАЧЕМ.

**— Владимир, оппозиция президенту сформирована из представителей самых широких социальных слоев. Но в ней мало военных, тем более — из спецназа. Поэтому расскажите немного о себе.**

— Ну что ж. Биография у меня простая и типичная для служащего спецназа. Началась она в Минском суворовском, продолжилась в Рязанском воздушно-десантном училище. Затем была служба в войсках, афганская война, академия им. Фрунзе, участие в локализации последствий межнациональных и иных конфликтов на территории СССР. Последние должности — командир бригады спецназа, дислоцированной в Марьиной Горке, руководитель специальной разведки Министерства обороны Республики Беларусь.

**— Насколько я знаю, ваш авторитет среди служащих спецназа бывшего СССР был достаточно высок. Что побудило Вас покинуть Вооруженные силы?**

— Спецназ — это идеология победителей. Ничто, кроме смерти, не могло остановить нас. Среди обстоятельств мы учитывали лишь одно — боевую задачу и сроки ее исполнения. Кроме долга свою роль играла и романтика — мы считали себя героями. Однако в глазах политиков мы были лишь дешевым расходным материалом. Наша кровь была для них дерьмом, которое размазывалось ими по всему миру. Я прозрел лишь тогда, когда это «дерьмо» стали размазывать по моей стране.



**— Министр обороны Мальцев тоже прозрел и нашел странный способ выразить свой протест?**

— Так, как случилось с Мальцевым, будет со всеми, кто не сможет слепо служить президенту. Во-первых, таких пьющих, как Мальцев, у нас называют непьющими. Во-вторых, высокопоставленные военные никогда не пьют в обществе, тем более в присутствии начальства. В-третьих, лицемерное вероломство Лукашенко и его подручных совершенствуется изо дня в день.

Вспомните отставку Юрия Захаренко. Он ушел, сохранив репутацию, и приобрел привлекательный имидж. Сегодня — это влиятельный оппонент Лукашенко. А посему Мальцева решили дискредитировать публично, при свидетелях. В такой ситуации ему будет сложно очистить «запятнанный» мундир. Меня же поразила молниеносная реакция нашего «вождя». Как легко он выбросил своего человека: «Помогите *бывшему* министру обороны!». Если это и экспромт, то запланированный.

С другой стороны, генерал Мальцев — ставленник Лукашенко. И если он алкоголик, то что можно сказать о других «силовиках», утвержденных ВС по представлению президента? От них Мальцев отличался тем, что не злоупотреблял заявлениями типа: армия и президент едины. Кроме того, он набрался «наглости» и пообщался с «врагами» — Карпенко и Богданкевичем.

Ведь что произошло? Г-н Мальцев в полном здравии отправляется в компании с Лукашенко в Смолевичи на церемонию открытия станции спутниковой связи. «Кореша» выпивают по бокалу шампанского, после чего один «падает с копыт», а второй публично топчет его ногами. И все это для того, чтобы дать громкую оплеуху Армии, не спешащей, в отличие от других ведомств, в отцовские объятия Лукашенко.

Помните «покушение» на Лукашенко в Лёзно? Прогресс очевиден. Правда, пока в стаканы добавляют клофелин, а не цианистый калий.

**— Кто же возглавит военное ведомство? Аголец, Чумаков, Павловский или кто-то из преданных Лукашенко замполитов?**

— Ожидания «объединителя славян» и здесь могут не оправдаться. Смешно как-то говорить, но у каждого офицера есть честь, во всяком случае — предел бесчестья.

**— Как Вы оцениваете ситуацию, сложившуюся накануне референдума?**

— Если бы страной руководили нормальные люди, то конфликт исчез бы уже сам по себе. Впрочем, он бы и не возник.

Решение КС лишило референдум морального и юридического продолжения. Указ Лукашенко по сути дезавуирует это решение и является серьезным шагом к ликвидации конституционного порядка в Беларуси. В стране чувствуется запах крови и, судя по всему, он пьянит главу государства. Поэтому можно сказать, что пришло время мужественных решений. Конституционный суд, в интересах граждан, должен дать адекватаную оценку деятельности президента, а Верховный Совет — начать процедуру импичмента.

Именно от президента исходит угроза общественной безопасности. Мы же выступаем на стороне закона, что позволяет нам быть последовательными и предсказуемыми в своих действиях.

**— Что бы Вы посоветовали на сей счет президенту?**

— Я бы сказал так. Г-н президент! Вы попробовали себя в роли президента — пока не получается. Ради Бога, не испытывайте себя в роли Верховного главнокомандующего. Вы и так поставили Армию в унизительное положение. Я воевал в Афганистане, летал со своей бригадой спецназа по просторам СССР, и мне доподлинно известны чувства солдата, когда его как собаку науськивают на собственный народ. Все Ваши амбиции не стоят и мизинца моего бойца. Не заставляйте меня собирать своих парней и формировать бригады спецназа при Верховном Совете.

Не унижайтесь, не просите пожизненного сенаторства у своего народа! Тяжело в колхозе? Не возвращайтесь! Вы на самом деле человек не без таланта. Попробуйте себя в театре. Вам посильна любая роль — хоть Пиночета, хоть Муссолини. Но не перепутайте — это только в театре.

**— В таком случае — традиционный вопрос: что делать?**

— Прежде всего необходимо отстоять действующую Конституцию и восстановить законность в стране, «загнать» президента в правовое поле, ликвидировать его монополию на СМИ. В противном случае — отстранить от власти.

Политическим лидерам необходимо обуздать собственные амбиции, реально оценить свои силы и создать объединенное демократическое движение, направленное на вывод страны из кризиса, а народа из нищеты.

Это движение должно представлять собой серьезную организационную и политическую структуру. Необходимо сформировать теневой кабинет, разработать экономическую программу, выработать военно-политическую доктрину государства, предложить народу политический курс, отвечающий его реальным интересам, и соответствующую реорганизацию государственных структур.

Это движение позволит противостоять навязываемому сверху беззаконию, в положенный срок провести выборы нового президента, который с первых дней сможет приступить к конструктивной деятельности.

Иначе мы получим еще одного демагога, вооруженного пустой «папкой компромата», без идей и совести, но с даром убеждать народ в бекорыстной к нему любви.

Большевизм начинался с уничтожения собственного народа. Мы обязаны сделать так, чтобы его закат в Беларуси не завершился тем же — гражданской войной.

*Беседовал*
**С.КОНСТАНТИНОВ**

# Пазіцыя Еўропы цвёрдая

**Парламенцкая асамблея Савета Еўропы прыняла спецыяльную рэзалюцыю па сітуацыі ў Беларусі.**

*«Беларусь падала заяўку на членства ў Савеце Еўропы ў сакавіку 1993 г. і такім чынам заявіла аб прызнанні правоў і свабод чалавека, прынцыпаў дэмакратыі і верхавенства закона»*, — адзначаецца ў дакуменце. Між тым прапанаваны прэзідэнтам праект канстытуцыі, на думку членаў Парламенцкай асамблеі, значна ўзмацняе ўладу прэзідэнта і ставіць пад сумнеў ролю парламента як незалежнага заканадаўчага органа, а таксама робіць немагчымым усякі кантроль над выканаўчай уладай. У дакуменце падкрэсліваецца, што Парламенцкая асамблея *«поўнасцю прызнае суверэннае права народа Беларусі праводзіць канстытуцыйныя рэформы»*. Аднак Савет Еўропы прытрымліваецца цвёрдай пазіцыі, што такія рэформы абавязкова павінны шырока абмяркоўвацца праз сродкі масавай інфармацыі, а сёння наўрад ці можна гаварыць пра існаванне свабоды СМІ ў Беларусі, адзначаецца ў рэзалюцыі.

Парламенцкая асамблея таксама звяртае ўвагу на тое, што абраны парламент і Канстытуцыйны суд з'яўляюцца легітымнымі органамі, якія прадстаўляюць волю народа Беларусі, а таму павінны *«поўнасцю выкарыстаць сваё паўнамоцтвы ў адпаведнасці з дзеючай Канстытуцыяй»* дзеля *«ўзмацнення дэмакратычных працэсаў і захавання палітычнай стабільнасці»*. *«Толькі ў гэтым выпадку Беларусь застанецца на шляху дэмакратызацыі, што з'яўляецца неабходнай умовай членства ў Савеце Еўропы»*, — падкрэсліваецца ў рэзалюцыі.

Парламенцкая асамблея Савета Еўропы таксама заклікае да правядзення «круглага стала» з удзелам *«прадстаўнікоў усіх зацікаўленых партый і інстытуцый з мэтай прадуктыўнага палітычнага дыялогу і больш узгодненага падыходу да канстытуцыйнай рэформы»*.

**М.Н.**

# Чарговы ўрок. Але ці на карысць?

**Сяргей НАВУМЧЫК**



Калі ў студзені 1994 г. Лукашэнка, Ганчар і Булахаў (даруйце, Віктар і Дзмітрый, але — было!) разам з Кебічам здымалі Шушкевіча, некаторыя дарадцы спікера супакойвалі самі сябе: *«Нічога, як падыдзе час ставіць пытанне на галасаванне, Ельцын пазвоніць Кебічу і скажа: «Слава, не трогай Стася! А то, панимаешь, долги за газ к оплате предъявим»*. Калі б такі званок сапраўды адбыўся — заставацца б Шушкевічу спікерам, гэта безумоўна. Ды толькі крамлёўскі сябра маўчаў. Той выпадак павінен быў навучыць усіх нас, што сяброў у Крамлі быць не можа.

Але — не навучыў. У амерыканскай газеце чытаю словы Багданкевіча: ніхто з дэпутатаў цяперашняга парламента не выступае супраць беларуска-расійскага мытнага пагаднення. Падумаў было, што недакладна пераклалі. Але купляю «Московские новости» — тая ж цытата, у інтэрв'ю Ларысе Саенка. Ларыса — журналіст прафесійны і дакладны, прыйшлося паверыць. Якія выгады ад мытнага саюза Вы, Станіслаў Антонавіч, бачыце, калі толькі за няпоўныя два гады страты беларускай дзяржавы на адных толькі «іншамарках» складаюць мільёны долараў? У рэпартажы пра вынікі візіту Карпенкі ў Маскву — словы віцэ-спікера пра неабходнасць інтэграцыі з Расіяй. Пра якую інтэграцыю Вы кажаце, Генадзь Дзмітрыевіч? Пры маўклівай згодзе парламента аддалі Наваполацкі нафтаперапрацоўчы камбінат, таксама і Мазырскі, на чарзе чыгунка, — куды ўжо больш шчыльна інтэгравацца?

Чым прадыктаваныя гэтыя словы — імкненнем звярнуць на сябе ўвагу, спадабацца Маскве, займець саюзнікаў? Саюзнікаў — сярод каго? Прыгадаем, якія аптымістычныя прагнозы рабіліся некаторымі палітолагамі пасля візіту ў Мінск Зюганава і ягоных канфідэнцыйных гутарак з беларускімі камуністамі. Самі сябе пераконвалі, што ў супрацьстаянні «прэзідэнт—парламент» уплывовая палітычная сіла Расіі падтрымае буйнейшую фракцыю беларускага парламента хоць бы з прычыны бальшавіцкай салідарнасці. А вось вам, таварыш Новікаў і таварыш Калякін, падарунак ад «Красной Пресни» — галасаванне за выступ Лукашэнкі перад Дзяржаўнай Думай. Што там ваш мінскі парламентарызм, канстытуцыйная законнасць перад расійскімі дзяржаўнымі інтарэсамі.

Тры гады таму, пасля публікацыі ў «Народнай газеце» артыкула Пазьняка «О русском империализме и его опасности», шмат хто абурыўся некампліментарнымі выказваннямі ў адрас некаторых маскоўскіх дэмакратаў. Цяпер, здаецца, ілюзіі адпалі. Не трэба пераацэньваць тое, што здарылася ў мінулую сераду. Так, упершыню частка расійскіх дэпутатаў недвухсэнсоўна выказалася супраць парушэнняў Лукашэнкам правоў чалавека. Але гэта — яшчэ не знак падтрымкі беларускага суверэнітэту. Ніводны з палітыкаў, якія завуць сябе «дэмакратамі», ніколі, ніводнага разу, не падтрымаў нават «скрозь зубы» незалежнасць Беларусі. Зрэшты, як і Украіны, Малдовы ці Літвы. Выключэнне — Сяргей Кавалёў і Валерыя Навадворская. Але яны маюць толькі маральны ўплыў, а мараль, як вядома, у нашых суседзяў палітыку не вызначае. Я думаю, той артыкул Пазьняка было б варта перадрукаваць сёння — дыскусія пасля публікацыі абяцае быць куды цікавейшай, чым тады.

І вось зноў некаторыя чакаюць, што калі не Ельцын, то Чубайс, узброены інфармацыяй ад мінскіх дэмакратаў, у час «ікс» адправіць Лукашэнку ў палітычны нябыт і зробіць стаўку на «здаровыя», «неантырасійскія» сілы. Але з якой прычыны адмаўляцца Маскве ад Лукашэнкі? Заціскае дэмакратыю, правы чалавека? Гэты аргумент нічога не варты, калі гаворка ідзе пра стратэгічныя інтарэсы Расіі. Паглядзіце, каго паставіў Крэмль у былых рэспубліках Сярэдняй Азіі, адхіліўшы ад улады дэмакратаў. Але ў дачыненні да Беларусі гаворка ідзе пра больш важнае — інтарэсы ўласныя, якім падпарадкаваныя ўсе астатнія інтарэсы. Нядаўнія скандалы ў Маскве выявілі гіганцкія сумы, якімі звыкла маніпулюе ельцынскае атачэнне. Крыміналізацыя расійскай ўлады — адна з прычынаў, чаму Лукашэнку даравалі гісторыю з «Торгэкспо». Хаця, канечне, не ўзрадаваліся, што сотні мільёнаў на гэты раз не дайшлі да Масквы. Наступным разам прымусяць дзяліцца — толькі ўсяго. У астатнім жа беларускі фюрэр не выклікае асаблівых прэтэнзіяў, і ў Лукашэнку, безумоўна, зацікаўленая і расійская мафія, якой ён адчыніў калідор у Еўропу.

Незалежна ад нюансаў успрыняцця расійскімі палітыкамі выступу Лукашэнкі ў Думе, нягледзячы на з'едлівыя каментары журналістаў, у рэшце рэшт маскоўскі істэблішмент падтрымае яго пры любых абставінах. Змяніць Лукашэнку Масква пажадае толькі на таго, хто будзе згодны праводзіць тую ж палітыку здрады, але больш элегантна. Таму не варта спадзявацца на Расію. У такіх варунках палітычная перспектыва застаецца за тымі сіламі, якія будуць адстойваць нацыянальныя інтарэсы, не баючыся выглядаць непрывабнымі ў вачах тых, хто якраз, і паважае цвёрдасць.

*Нью-Йорк*

ЖАЛОБА

# Вечная памяць Анатолю Майсеню

**Учора, 14 лістапада, праводзілі ў апошні шлях Анатоля Майсеню — вядомага беларускага палітыка, журналіста, кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета.**

З 10 да 13 гадзінаў у Доме літаратара ў Мінску родныя, блізкія, сябры, калегі развітваліся з нябожчыкам. У 14 гадзін на Паўночных могілках Мінска, дзе пахавалі Анатоля Майсеню, адбылася грамадзянская паніхіда.

А.І.Майсеня нарадзіўся 4 студзеня 1959 года ў в.Вялікая Ліпа Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці ў сям'і сельскіх настаўнікаў. Закончыў інстытут замежных моваў і аспірантуру інстытута філасофіі і права Акадэміі навук Беларусі, пасля абараніў дысертацыю і атрымаў ступень кандыдата філасофскіх навук. У свой час ён працаваў каментатарам на Беларускім і карэспандэнтам на Расійскім тэлебачанні, палітычным аглядальнікам «Народнай газеты». З 1992 года ўзначальваў Нацыянальны цэнтр стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад».

Загінуў Анатоль Майсеня ў аўторак, 12 лістапада, у 7:30 раніцы на 286-м кіламетры шашы Брэст-Мінск ў аўтамабільнай катастрофе. Трагедыя адбылася на тэрыторыі Стаўбцоўскага раёна каля вёскі Яблынаўка. Супрацоўнік ДАІ Стаўбцоўскага РАУС Віктар Протас, які непасрэдна выязджаў на месца аварыі, паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ, што аўтамабіль *Jeep-Cherokee,* якім кіраваў А.Майсеня, урэзаўся ззаду ў грузавік «ГАЗ-53», (яго цягнуў на буксіры «КамАЗ»). У той злашчасны дзень прэзідэнт Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход-Захад» А.Майсеня вяртаўся дамоў з дзвюх міжнародных канферэнцый, прысвечаных праблемам міжнароднай бяспекі, якія праходзілі ў Вене і Рыме.



Міліцыя не выключае, што Анатоль Іосіфавіч за рулём задрамаў. Па словах В.Протаса, «джып», рухаючыся на хуткасці прыкладна 140 кіламетраў у гадзіну, стукнуўся ў грузавік так моцна, што «ГАЗ-53» у выніку нават перакуліўся. Жонка кіроўца грузавіка, якая сядзела побач у кабіне, у выніку аварыі атрымала моцныя цялесныя пашкоджанні і была дастаўленая ў рэанімацыю. Анатоль Майсеня памёр па дарозе ў бальніцу.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

*На здымку: аўтамабіль А.Майсені пасля аварыі.*



ПАРАДЫ

# Не давайце волю сваёй злосці

Чалавек раззлаваўся. Сітуацыя непрыемная, але, на жаль, звычайная, мы з гэтым сутыкаемся ледзь не штодня. Паспрабуем спакойна прааналізаваць «раззлаваныя» паводзіны — гэта дапаможа ў далейшым.

Адчуваць злосць — амаль тое ж самае, што адчуваць боль. Найпершае жаданне чалавека, якому баліць, — каб боль суцішыўся. Найпершае жаданне раззлаванага чалавека — каб суцішылася злосць. Раззлаваны шукае спосаб «вымесціць» свае пачуцці, яму здаецца, што трэба перш за ўсё знайсці вінаватага і адпомсціць яму. Гэта, як здаецца раззлаванаму чалавеку, супакоіць яго і суцішыць непрыемныя эмоцыі.

У такіх развагаў нібыта ёсць логіка — але толькі на першы погляд. На самой справе ў той момант, калі мы кідаем у твар «крыўдзіцелям» свае абвінавачанні, калі ў запале крычым і лаемся, гэта ўсяго толькі выхад эмоцый, а наш розум папросту няздольны да разважанняў.

Псіхолагі сцвярджаюць, што ў гэтым выпадку чалавек паводзіць сябе паводле схемы, якая складваецца ў пяцігадовым узросце: знайдзі таго, хто цябе пакрыўдзіў, і зрабі яму таксама балюча. Згадзіцеся, што гэта — схема дзіцячых, а не дарослых разважанняў. Дарослы чалавек павінен разумець сапраўдныя прычыны раздражнення.

Раззлаваўшыся, вы не задумваецеся аб тым, што ж на самой справе давяло вас да такога стану. Вы проста знаходзіце ахвяру і пачынаеце выліваць на яе злосць. Вы заяўляеце ў вочы «крыўдзіцелю», што ён ва ўсім вінаваты, нічога не варты і ўвогуле дрэнны чалавек. І той (замест таго, каб суаднесці ваш гнеў з нейкім канкрэтным сваім учынкам) прымае гэтыя абвінавачванні на асабісты рахунак, лічыць, што яны маюць дачыненне ўвогуле да ягонай чалавечай годнасці, і ў сваю чаргу пачынае наступаць. Кола канфлікту замыкаецца.

Выйсце вельмі простае: гаварыце праўду! Вам можа здавацца, што вы і так гаворыце праўду, якая заключаецца ў «развянчанні» нягодніка — якім можа быць і несвядомае дзіця, і вашая пяшчотная жонка. Але праўда не ў гэтым. Праўда ў тым, што асабіста вы раззлаваліся — і гэта нарадзіла эмоцыю гневу. Зразумейце самі і адкрыта прызнайцеся сабе, што той, хто вас раззлаваў, — зусім не дрэнны чалавек. Дрэнны ўсяго толькі ягоны ўчынак. Не абвінавачвайце сваю жонку ў тым, што яна балбатуха і дурніца. Скажыце ёй праўду: «Я вельмі злуюся, калі ты доўга размаўляеш па тэлефоне». І тады вам у адказ не прыйдзецца чуць: «Гэта я дурніца? А сам ты ведаеш хто?..»

Асабліва небяспечна злавацца на маленькіх. Вашае дзіця не заўсёды можа ўсвядоміць, што стала прычынай злосці бацькоў. Дзеці, якіх пастаянна папракаюць, могуць страціць самапавагу, яны будуць увесь час адчуваць сябе вінаватымі — не ведаючы, у чым. А гэта адаб'ецца на школьных поспехах і адносінах з таварышамі. Нельга крычаць дзіцяці: «Нягоднік! Лайдак!». Лепш скажыце яму спакойна, што ў ягоных паводзінах няправільнага, што канкрэтна вас раззлавала. Паверце, гэта будзе мець больш плёну.

А тым, хто пастаянна сутыкаецца з раззлаванымі людзьмі і іхнімі папрокамі, прапаную два простыя правілы:

— Ніколі не ўспрымайце рэзкія абвінавачванні як абразу вашай чалавечай годнасці, не губляйце самапавагі.

— Калі вас абвінавачваюць ва ўсіх грахах — не спрачайцеся, не абвяргайце, не апраўдвайцеся і не абвінавачвайце ў сваю чаргу праціўніка: гэта толькі эмоцыі.

Навошта ж шукаць сэнс там, дзе яго няма?

**Ганна СЕНЕШ**

# Узор сем'яніна

**Гэтымі днямі гродзенцы знайшлі ў сваіх паштовых скрынях улёткі на рускай мове, падпісаныя «группой поддержки президента».**

Змест, праўда, датычыць толькі жанчын. Да іх звяртаюцца з просьбай падтрымаць на рэферэндуме *«доброго и горячо любимого»* прэзідэнта. Спосаб падтрымкі прапануецца даволі незвычайны. Жанчын заклікаюць вышыць на адзенні і споднім сваіх мужоў наступныя лозунгі: *«Лукашенко — мужчина моей мечты», «Лукашенко — единственный настоящий мужчина во всей Белоруссии», «Лукашенко — образец семьянина для всех мужчин».*

**Л.БУТВІЛОЎСКАЯ**

# Сярго спадабаўся не ўсім

**З'яўленне новых помнікаў публіка ўспрымае па-рознаму.**

Не паспелі ў Барысаве паставіць новы бюст Сярго Арджанікідзэ, як пасля ўрачыстага адкрыцця ў першую ж ноч (з 6 на 7 лістапада) помнік аблілі зялёнай і белай фарбамі. Як паведамілі нам у барысаўскай міліцыі, на ачыстку металічнага Сярго спатрэбілася ўсяго 20 хвілін.

**А.Д.**

# Творчасць «на злобу дня» і міліцэйская пільнасць

**У Светлагорску на цэнтральнай вуліцы горада хтосьці павесіў лукашэнкаўскі чырвона-зялёны сцяг «са змяненнямі і дапаўненнямі».**

У цэнтры сцяга было акуратна намаляванае вялікае белае кола, а ў ім — чорная фашысцкая свастыка. Напэўна, такім спосабам невядомыя асобы далі характарыстыку цяперашняй прэзідэнцкай уладзе на Беларусі. Сцяг правісеў тры дні на даху шматпавярховага будынка (на 1-м паверсе якога размяшчаецца цэнтральная гарадская бібліятэка), затым быў зняты міліцыяй.

Тым часам у цэнтры гарадскога пасёлка Парычы (гэтага ж раёна) на галоўнай вуліцы ўжо чатыры месяцы красуецца надпіс: «Лукашенко — козья морда». Надпіс выкананы вялізнымі літарамі на сцяне адной з крамаў і добра чытаецца нават з міжгародных рэйсавых аўтобусаў, маршруты якіх праходзяць якраз па гэтай вуліцы.

А яшчэ ў адным выпадку светлагорская міліцыя праявіла невераґодную пільнасць. Здарылася гэта 2 лістапада ў тутэйшым Палацы культуры хімікаў, дзе міністр Кенік і кіраўнік прэзідэнцкай парламенцкай фракцыі Канаплёў тлумачылі народу мудрую палітыку Лукашэнкі. Пакуль народ у зале, пазяхаючы, слухаў прамовы пасланцоў прэзідэнта ды чакаў абяцанага пасля выступленняў бясплатнага канцэрта ансамбля «Верасы», міліцыянты заўважылі ў фае чалавека з «падазроным» поліэтыленавым пакетам. Двое работнікаў міліцыі абшукалі пакет, але нічога (акрамя некалькіх асобнікаў газеты «Сенсация») там не знайшлі. Тым не менш міліцыянты чамусьці адабралі пакет з газетамі ў чалавека, якому ён належаў (гэта быў жыхар горада Віктар Георгіевіч Ахрамчук) ды адвезлі газеты ў гарадскі аддзел унутраных справаў. Ніякіх пратаколаў пры гэтым не складалі.

В.Ахрамчук вымушаны быў накіравацца за сваімі рэчамі ў ГРАУС. Там яму ўсё вярнулі, але так і не растлумачылі, у чым заключаўся сэнс гэтай міліцэйскай «аперацыі». Хутчэй за ўсё, міліцыянтам, якія ахоўвалі мінскіх чыноўнікаў, проста не было чым заняцца. Бо на ахову быў сцягнуты ці не ўвесь асабовы склад тутэйшай міліцыі.

**Анатоль АЛЯКСЕЕЎ**

# Паглынула полымя

**За 10 месяцаў гэтага года ў краіне адбылося 14.518 пажараў, матэрыяльныя страты склалі 246 млрд. 96 млн. рублёў (больш за 12 мільёнаў доляраў).**

У прэс-цэнтры Рэспубліканскага ўпраўлення ваенізаванай пажарнай службы таксама паведамілі, што ў агні загінула 557 чалавек, у тым ліку 56 дзяцей. Агонь знішчыў 1.022 галавы жывёлы, 387 адзінак тэхнікі, 3.738 розных збудаванняў, амаль 11 тыс. тон сена і саломы.

**Валодзя ЯНЧУК**

# Патануў у нафце

**Днямі каля вёскі Васількоў Рэчыцкага раёна на буравой свідравіне № 28, якая належыць Рэчыцкаму нафтаваму ўпраўленню, загінуў 41-гадовы рабочы А.Рудзінок.**

Гэта здарылася падчас рамонтных работ. Мужчына сарваўся з вышкі свідравіны, зваліўся ў 50-кубовую ёмістасць, напоўненую воданафтавай эмульсіяй, і патануў.

**Мікалай ГРЫПІЧ**

# Ліберальна-дэмакратычныя рэкеціры

**У Брэсце затрыманыя двое грамадзянаў Расіі, жыхары г.Саранска 35-гадовы А.Бардзін і 32-гадовы А.Левашоў.**

Яны абвінавачваюцца па падазрэнні ў вымагальніцтве 60 млн. рублёў у дырэктара і бухгалтара брэсцкай камерцыйнай фірмы «Сінтэс».

Выбіваннем грошай у прадпрымальнікаў цяпер нікога не здзівіш. Але ў гэтай крымінальнай гісторыі цікава тое, што рэкеціры расійскага паходжання мелі пры сабе сапраўдныя пасведчанні начальнікаў аддзяленняў службы бяспекі ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі. Па факце вымагальніцтва ўзбуджаная крымінальная справа, вядзецца следства.

**Анатоль МІРСКІ**

# Беларуска-літоўскі інтым

**Нядаўна ў Вільні закончыўся суд над грамадзянінам Літвы К.Расюкявічусам. Яму інкрымінавалася спроба нелегальнага перасячэння беларуска-літоўскай мяжы. Аднак у ходзе следства высветліліся цікавыя падрабязнасці.**

Памежнікі затрымалі Расюкявічуса на тэрыторыі Воранаўскага раёна, калі ён спрабаваў нелегальна пераехаць мяжу. У ягоным аўтамабілі знаходзіліся пяць беларускіх дзяўчат. Як патлумачыў Расюкявічус на судзе, ён вёз іх у Літву «на інтымную аплочваемую працу». Вербаваў дзяўчат ягоны напарнік, уладальнік адной мінскай камерцыйнай фірмы.

**Алесь КАСТРАВІЦКІ**

СПОРТ

# Памянялі коней на пераправе

## ГАНДБОЛ: КАНФЛІКТ ПАГАСІЛІ

Чытачы ўжо ведаюць, якія страсці разгарэліся вакол рашэння кіраўніцтва гандбольнага клуба СКА (Мінск) праводзіць хатнія матчы Лігі чэмпіёнаў у Германіі з-за *«няпэўнага палітычнага становішча ў Беларусі».* Міністр спорту забараніў выезд у Германію, у Еўрапейскую федэрацыю гандболу накіраваны факс з просьбай усё ж такі перанесці матчы ў Мінск. Аднак з ЕФГ паступіў адмоўны адказ з матывіроўкай: позна! А калі б мінчане не прыехалі ў Германію — гэта б выклікала адміністратыўныя і фінансавыя штрафныя санкцыі. Таму міністр спорту і турызму Уладзімір Рыжанкоў прыняў мудрае рашэнне: няхай едуць і гуляюць, але каб іншым разам...

Армейцы правялі матч у Бад-Херсфельдзе ў прысутнасці 3.000 гледачоў супраць чэмпіёна Германіі «Кіля». Першыя 26 хвілін на пляцоўцы ішла роўная гульня — 9:9, але потым немцы ўключылі рэзервовыя сілы, якіх у актыве беларусаў не аказалася, і ў выніку разбілі «гаспадароў» — 27:15 — на карысць «Кіля».

## ВАЛЕЙБОЛ: «КАМУНАЛЬНІК» МАЦНЕЙШЫ ЗА «МЕТАЛАЦА»

Гродзенскі «Камунальнік» паспяхова пераадолеў бар'ер першага папярэдняга круга ў розыгрышы Кубка Еўрапейскай канфедэрацыі валейбола, двойчы «ўсухую» перамогшы харвацкі «Металац».

## ФУТБОЛ: НОВАЯ СТАРАЯ «МЯТЛА»

Чэмпіён СССР 1982 года, былы варатар мінскага «Дынама» Міхаіл Вергіенка зноў прызначаны галоўным трэнерам нацыянальнай зборнай Беларусі, на чале якой ён быў паўтара года ў 1992—1994 гадах. Папярэдні настаўнік (дарэчы, таксама ўладальнік «саюзнага золата») адхілены ад пасады ў сувязі з незадавальняючым выступленнем зборнай каманды ў адборачных матчах чэмпіянату свету. Праўда, выканкам федэрацыі футбола такога прысуду не выносіў. Але калі ўжо трэнера мяняюць — усё і так ясна.

## ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ: ШАТЛАНДЫЯ НАПЕРАДЗЕ

У чацвёртай еўрапейскай адборачнай групе, дзе выступае і зборная Беларусі, адбыліся два матчы. Аўстрыйцы ў Вене з вялікімі цяжкасцямі адолелі латышоў — 2:1, а шатландцы ў Глазга атрымалі вельмі важную перамогу над шведамі — 1:0, і цяпер стаяць на пачатку турнірнай табліцы.

| | Г | А |
|---|---|---|
| 1. Шатландыя | 3 | 7 |
| 2. Аўстрыя | 3 | 7 |
| 3. Швецыя | 4 | 6 |
| 4. Беларусь | 4 | 4 |
| 5. Эстонія | 2 | 3 |
| 6. Латвія | 4 | 1 |

Некаторыя астатнія вынікі выглядаюць так: *Люксембург — Расія — 0:4, Партугалія — Украіна — 1:0, Польшча — Малдова — 2:1, Азербайджан — Венгрыя — 0:3, Албанія — Арменія — 1:1, Грузія — Англія — 0:2.*

З іншых вынікаў трэба адзначыць разгром, які ўчыніла зборная Македоніі футбалістам Ліхтэнштэйна — 11:1, прычым — у гасцях. Каманда Галандыі выйграла ў зборнай Уэльса з лікам 7:1, а зборная Турцыі разграміла футбалістаў Сан-Марына — 7:0. Кіпрыёты нечакана перамаглі ізраільцян — 2:0, а чэмпіён Еўропы — зборная ФРГ — дома здолела згуляць толькі ўнічыю супраць Паўночнай Ірландыі — 1:1.

**Сямён ПЛОЦ**

Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Internet:.http:\\www.gis.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 90.000 (1-шы завод — 48.820)
Нумар падпісаны ў друк 14.11.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 2630